Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 1. Вільня, Серада, 18-га лістапада 1925 г. Год I.



## Цень Сталыпіна.

У вельмі цікаўны палітычны мамэнт пачынае выхадзіць нашая часопісь.

Урад п. Грабскага, аб якім польская прэса, здаецца, зусім салідарна піша, што ён зруйнаваў Польшчу эканамічна, зыйшоў урэшце са сцэны. Можна цяпер сьмела сказаць, што ў асобе п. Грабскага зышоў са сцэны родны брат нябожчыка Сталыпіна, толькі ў польскім выданьні.

Запраўды-ж, паміж палітыкай п. Грабскага і ліхое памяці расейскага прэм'ера ёсьць аж залішне многа супольнага. „Даразныя суды“, якія за гаспадараваньня п. Грабскага выявілі такую энэргічную дзеяльнасьць у Польшчы,—гэта-ж точная копія сталыпінскіх ваенна-палявых судоў. І Грабскі, і Сталыпін ішлі па аднэй дарозе і ў сваей нацыянальнай палітыцы: польскі прэм'ер нават „лепш“ ліквідаваў беларускую асьвету ў Польшчы, чым у свой час Сталыпін цісnуў польскую асьвету ў Расеі, а жыдоўскія працэсы—Штэйгера ў Польшчы і Бэйліса ў царскай Расеі—маюць лішне ўжо многа супольных рысак.... Урэшце аграрная палітыка п. Грабскага — ці-ж гэта ня точная копія сталыпінскае стаўкі на вясковага „кулака“ — з тэй толькі розьніцай, што Сталыпін аднолькава аднасіўся да „сваіх“ і „інародных“ кулакоў, а п. Грабскі абапёрся толькі на „сваіх“?.... І толькі ў адным выявілася розьніца між польскім і расейскім прэм'ерамі: Сталыпін прынамся не зруйнаваў Расеі эканамічна, што якраз зрабіў з Польшчай Грабскі.

Трэба думаць, што, калі-б не апошняя акалічнасьць, дык пан Грабскі і далей карыстаўся-бы поўным падтрыманьнем як з боку польскае правіцы і нацыяналістаў, так і з боку так-званых польскіх „сацыялістаў“: і адных, і другіх палітыка п. Грабскага зусім здаваляла. Вось-жа цяпер для нас, беларусаў, як для „інародцаў“—з аднаго боку і як для сялянскае беднаты—з другога, вельмі важным зьяўляецца пытаньне: ці з адыходам ад улады Грабскага прыдзе канец і на польскую „сталыпіншчыну“, ці пануры цень як-ні-як вы-датнага царскага слугі, пакінуўшага на вечныя часы сваё імя ў памяці людзей хаця-бы ў знамянітым выражэньні: „сталыпінскі галстук“, будзе і далей пакрываць сабой Польскую рэспубліку?

Калі ўдумацца ў прычыны эканамічнае руіны Польшчы, дык сярод іх—побач з фінансавымі экспэрымэнтамі п. Грабскага, побач з праяданьнем буржуазіяй зьберажэньняў усяго працоўнага народу (знамянітыя крэдыты без аддачы „грубым рыбам“ прамысловасьці кшталтам Корфантага і т. п.),—убачым яшчэ і такія прычыны, якія вынікаюць *беспасрэдна з нацыянальнае палітыкі Польшчы*. Бо-ж ні для кога ня будзе ўжо сакрэтам, што заграпічныя пазыкі не ўдаюцца Польшчы, паміж іншым, і дзеля тае „фатальнае апініі“ яе заграніцай, якую ей вырабіла іменна палітычная лінія ў нацыянальным пытаньні. Хіба-ж скаргі трацiны насяленьня дзяржавы — беларусаў і украінцаў, літвіноў, немцаў і жыдоў—маглі астацца бяз водгуку? Хіба-ж стан вечнае ваеннае гатоўнасьці з прычыны тэрытарыяльных дыфэрэнцыяў з суседзямі можа заахвоціць чужаземных банкіраў да адкрыцьця Польшчы крэдытаў?!....

Ясна, што і зьмена ўраду Грабскага на нейкі іншы, і ўсё патугі і ахвяры дзеля аздараўленьня эканамічнага жыцьця Польшчы *не дадуць ніякіх вынікаў, калі і далей у ёй панавацімець старая сталыпінская сыстэма*— тым горшая за расейскую „сталыпіншчыну“, што яна ў Польшчы зьяўляецца яшчэ і ваяўнічай. Гэта, бясспрэчна, дужа добра разумеюць і кіраўнікі польскае палітычнае мысьлі. Але, хоць і разумеюць, ды ніяк ня хочуць пакаяцца ў старых грахох проці „меншасьцяў“ і зыйсьці з старое фальшывае дарогі, на якую ўзьбіліся „прыраджоныя гаспадары“ Польскае дзяржавы. Робяцца крокі, якія маюць на мэце ня гэтулькі зраўнаваньне ў правох усіх нацыянальнасьцяў, што жывуць пад Польшчай, сколькі разьбіцьцё салідарнасьці „меншасьцяў“ у змаганьні іх за свае правы.

Мы тутака маем на думцы бяспрыкладны дагэтуль факт: ня гледзячы на ўсе заявы польскіх палітыкаў, што аб дзяржаўных справах Польшчы могуць падаваць свой голас выключна толькі грамадзяне яе польскае нацыянальнасьці, пан прэзыдэнт Войцеховскі зусім неспадзявана *запрасіў у Бэльвэдэр на размову аб утварэньні новага ўраду прадстаўніка аднае з „меншасьцяў“—жыдоўскага дэпутата Розмарына.* — Але затое ўсе другія „меншасьці“ надалей пакінуты збоку ад вырашэньня пытаньня аб новым урадзе. Пакінуты збоку і беларусы. І гэта — ў той мамэнт, калі тварыць гэны новы ўрад бярэцца, як пішуць, уся *аб'яднаная польская дэмакратыя*—так-званы „цэнтра-лев“, калі падыймае голас павадыр гэтае дэмакратыі—пан маршалак Язэп Пілсудскі......

Цень Сталыпіна крыху пабялеў, але „*сталыпіншчына*“ зводзіцца ня так лёгка: яна—вытвар дзяржаўна-сацыяльнага ладу сучасных буржуазных гаспадарств з „нацыянальнымі меншасьцямі“ ў іх складзе.

# Зьмена ураду у Польшчы.

### Адстаўка габінэту Грабскага.

13 лістапада прэм. Грабскі падаў п. Прэзыдэнту Рэсп. прашэньне аб адстаўцы гэткага цікавага зьместу:

„Новы спадак злотага, ня гледзячы на зраўнаважаны ўжо ад 3 месяцаў тарговы балянс краю, а таксама бясспынны ўзрост безрабоцьця — прадстаўляюць такое зьявішча грамадзкага жыцьця, якое вымагае бязумоўнага паразуменьня ўсіх чыньнікаў палітычнага жыцьця дзяржавы. Гэтыя чыньнікі павінны ўсе згодна парупіцца аб лёсах польскай дзяржавы, спыняючы палітычную і парляманцкую барацьбу і творачы гэтак падставы неабходнага ў гэткія важныя мамэнты ўрадавага аўтарытэту. З прычыны таго, што мая асоба, як галавы і сябры ўраду, зьяўляецца, як аказалася, перашкодай дзеля гэткай згоды, я змушаны прасіць пана Прэзыдэнта звольніць мяне з займаных праз мяне становішчаў (прэм'ера і мін. фінансаў)— каб да часу ўтварэньня ўраду, абапертага на значнейшай большасьці парляманту, што можа займе шмат часу,—мая асоба ня была чыньнікам, перашкаджаючым супольнай працы Сойму, як цэласьці, з урадам, — якая цяпер зьяўляецца галоўнай канешнасьцяй дзяржаўнага жыцьця“.

П. Прэзыдэнт прыняў адстаўку Грабскага.

Разам з прэм. Грабскім падаўся ў адстаўку і ўвесь яго ўрад.

---

Маршалак Сойму п. Ратай заявіў журналістам, што Прэзыдэнт запрапанаваў яму ўтварэнтне ўраду, але ён адмовіўся.

---

У зьвязку з адстаўкай габінэту Грабскага Сойм у пятніцу працаваў толькі адну гадзіну, паставіўшы на павестку дня толькі прапазіцыю Вызваленьня **аб роспуску Сойму**. Прапазіцыя была **адкінута 206 галасамі проці 93...**

Наступнае паседжаньне Сойму назначана было толькі на аўторак.

### Роль Нямеччыны ў польскім урадавым крызісе.

Газэты пішуць, быццам значную роль у зваленьні габінэту Грабскага адыграў нямецкі ўрад. Быццам пас. Дыяманд, які ўваходзіць у склад тарговай дэлегацыі, што вядзе перагаворы ў Бэрліне аб заключэньні торговага дагавору, прывёз вестку аб тым, што нямецкі ўрад катэгарычна зажадаў, каб усе меры, прынятыя Грабскім у справе абмежаваньня ўвозу з Нямеччыны ў Польшчу, былі зараз жа скасаваны, — толькі тады перагаворы могуць прадаўжацца... Ведама-ж, „гонар“, з якім—коштам жыцьцёвых інтэрэсаў краю — была распачата ўся гэтая бязглуздая „вайна“ з Нямеччынай, не дазволіў Грабскаму капітуляваць перад тым, каго яшчэ ўчора ўсе ў Польшчы лічылі „переможанымі“ назаўсёды... І вось гэтую неадхільную капітуляцыю п. Грабскі пакінуў свайму наступніку...

Уся справа яшчэ раз паказывае, у якой бязвыхаднай эканамічнай залежнасьці ад Нямеччыны знаходзіцца Польшча — асабліва з мамэнту, калі рухнула назаўсёды хворая „ваенная дыктатура“ Францыі ў Эўропе.

### Чаму „ўцёк“ п. Грабскі?

„Нямецкая інтрыга“ проці польскага злотага ізноў аказалася вельмі... польскай! Злоты, як ведама, быў штучна падтрымліваны праз увесь апошні час — шляхам так-званай „інтэрвэнцыі“ на біржы Польскага Банку, з запасаў якога Грабскі кідаў на біржавы рынак значныя масы даляраў, каб гэтак панізіць іх курс. Запасы ўсё таялі і таялі... Урэшце, як кажуць, дайшлі да такой сумы (штось каля 60 мільёнаў злот.!), што Старшыня Банку Карпіньскі спужаўся за фірму Банку і рашуча адмовіў Грабскаму далейшых крэдытаў... Калі п. Прэзыдэнт падтрымаў Карпіньскага, Грабскі ўцёк. Тады даляры зусім зьніклі з рынку варшаўскай біржы. Прыйшлося іх, каму трэба, купляць на прыватным рынку. Дык цана на іх, зразумела, і паднялася вышэй за 7 злот. Інакш кажучы, злоты паляцеў

уніз... На чым спыніцца гэты ўпадак, цяжка сказаць. Але ясна, што раптоўны ўрадавы крызіс толькі „памагае“ польскай валюце валіцца яшчэ ніжэй. Калі ўпадак злотага настрашыў яго бацьку—Грабскага, дык і наадварот: упадак Грабскага зусім спудзіў яго няўдалага сыночка...

## Чуткі аб выхадзе ў адстаўку п. Прэзыдэнта.

Пястоўскае „Echo Warszawskie“ падало чутку аб адмове ад свайго становішча і Прэзыдэнта Войцехоўскага. Пястовец маршалак Сойму Ратай з абурэньнем заявіў, што „трэба быць зусім неадказным чалавекам, каб пусьціць думку аб прэзыдэнцкім крызісе ў гэткі цяжкі мамэнт“.

Дык дзякуйце калезе, пане Вітас! Бо-ж гэта п. Вітас з Карфантым фабрыкуюць гэткія чуткі.

## Спробы стварэньня коаліцыі.

Амаль ня ўсе клюбы высказалі пажаданьне, каб новы ўрад меў коаліцыйны склад, гэта значыць, каб у ім прымалі ўчасьце ўсе тыя партыі Сойму, якія стаяць на нейкай супольнай кампраміснай праграме. Мова, зразумела, толькі аб клюбах „польска-паньствовых“, да якіх, ня гледзячы на ўсе нядаўныя расчараваньні, выразна далучылася і Жыдоўскае Кола.

У Сойме казалі, быццам у склад новага ўраду ўвойдзе і жыдоўскі міністар.

Прадстаўнік Жыдоўскага Кола заявіў, што коаліцыйны склад габінэту (чытай: учасьце жыдоў)—першы варунак, каб вярнуць даверые заграніцы да Польшчы.

Гэткую думку аб коаліцыйным габінэце цэнтраправага крыла Сойму з жыдамі падтрымліваў моцна, як пішуць, і п. Прэзыдэнт.

З другога боку, „Вызваленьне“ падало думку аб стварэньні коаліцыйнага габінэту з цэнтру і левай паловы „польскага Сойму“. У склад коаліцыі згадзілася ўвайсьці — Вызваленьне, П.П.С., Работнікі-Нацыяналісты (Н.П.Р.), „Хлопскі Зьвязок“ (чыста інтэлігенцкая група) і Клюб Працы“. Усе гэтыя групы зьвярнуліся з супольным пісьмом да „Пяста“ і Хадэкаў („Хрысьціянскай Дэмакратыі“), запрашаючы да коаліцыі і іх.

## Роля П.П.С.

Партыя Польскіх Сацыялістаў напружала ўсе сілы, каб стварыць урад „вялікай коаліцыі“, значыць, каб у ім сядзелі за адным сталом і сацыялісты і эндэкі—ўсе польскія партыі. Пас. Барліцкі адбыў у гэтай справе даўгую нараду з старшынёй эндэцкага клюбу пас. Гломбіньскім, пасьля чаго прабаваў „ажаніць“ з эндэкамі і другія партыі Сойму.

П.П.С. у аснову ўрадовай праграмы пакладае: гаспадарчую палітыку, якая ў роўнай меры здаволіла-бы і спажыўцоў і прадуцэнтаў (?!), захаваньне законаў сацыяльнага характару для безработных, „маёнтковы“ падатак, паводле новага ўставу, уладжаньне справы нацыянальных меншасьцяў.

Усё гэта дужа пекна—на славах! Бо-ж як можа ўладзіць справу нацыянальных меншасьцяў суполка Барліцкага з Гломбіньскім? Гэта-ж паўтарэньне змовы проці меншасьцяў, зробленай у сваім часе „вызваленцам“ Тугуттам з эндэкам Ст. Грабскім!..

## Раптоўная „інтэрвэнцыя“ п. Пілсудскага.

Запраўдную паніку і страшэннае абурэньне сярод усей правіцы выклікала раптоўнае выступленьне, як „уладу маючага“, у „мірна працякаючы крызіс“ маршалка Пілсудскага. Бо-ж п. Пілсудскі падаў гэткую сымвалічную заяву п. Прэзыдэнту:

„Я ўзяў на сябе абавязак у гэткі цяжкі мамэнт—бараніць правоў арміі, як былы папярэднік п. Прэзыдэнта у найвышэйшым прадстаўніцтве Дзяржавы, і як той, хто фармаваў армію і стаяў на яе чале ў найцяжэйшых ваенных пробах,—урэшце, як той, хто мае ў войску найвышэйшае становішча (вось табе, пане міністар Сікорскі!). Дык я ўважаю за свой абавязак асьцерагчы пана Прэзыдэнта, каб ён не абмінуў маральных інтэрэсаў польскай арміі пры разважаньнях аб разьвязаньні сучаснага крызісу“...

Што хацеў сказаць гэтай заявай п. Пілсудскі, цяжка сказаць, ня ведаючы ўсей закуліснай сітуацыі. Ясна адно, што ён ня лічыць сябе зусім вышоўшым са сцэны, і—наадварот—даў усім ясна пачуць, што ён, апіраючыся на быццам адданую яму і падлягаючую яму, як найвышэйшаму яе правадыру, армію, можа і павінен адыграць яшчэ, калі будзе патрэба, рашучую роль у крызісе...

## Ген. Сікорскі нешта робе...

Выступленьне марш. Пілсудскага, як ясна для ўсіх, мела на мэце недапушчэньне да ўлады і кіраўніцтва ваенным міністэрствам ген. Сікорскага, якога „вывеў у людзі“ сам п. Пілсудскі, ды пасьля ў ім „расчараваўся“.

„Kur. Wil.“ падае вестку, з якое відаць, што і ген. Сікорскі ня спаў у шапку і з свайго боку рабіў нейкія асаблівыя крокі. Бо-ж, як піша карэспандэнт газэты, да Прэзыдэнта зьвярнуліся два дэпутаты з партыі „Вызволеньне“, якія зьвярнулі ўвагу п. Войцехоўскага на загады генарала, ад якіх „робіцца замяшаньне ў публічнай апініі, асабліва-ж сярод войска“. **„Загады гэныя могуць мець правакацыйныя вынікі“.**

## Новы прэм‘ер.

Выстаўленыя сьпярша кандыдатуры на прэм‘ера пэпээса Морочэўскага і інж. Бартля („Клюб Працы“) ў апошні мамэнт адпалі. Адпала і магчымасьць стварыць **парляманцкі** ўрад.

**Прэзыдэнт Рэспублікі даручыў утварэньне новага ўраду міністру заграніцных спраў Аляксандру Скшыньскаму.**

# Сьпешная прапазіцыя

**паслоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, Беларускага Клюбу, Украінскага Клюбу, Нямецкага Клюбу і Жыдоўскага Кола ў справе распараджэньня Міністра Р. В. і Пуб. Асьв. аб увядзеньні ў школах з няпольскаю выкладовую мовую вучэньня агульнае гісторыі і агульнае географіі папольску.**

У ліпені сёл. году прыватныя школы —беларускія, літоўскія, украінскія і жыдоўскія атрымалі паведамленьне на пісьме ад адпаведных куратараў, што, згодна з вызсьненьнем пана Міністра Р. В. і Публ. Асьветы з 23. IV. 1925 г. № 4022/25—II—D, навучаньне агульнае гісторыі і агульнае географіі павінна адбывацца ў 1925/26 школьным годзе папольску. А нямецкія школы атрымалі адпаведныя паведамленьні на словах ад паасобных школьных інспэктароў.

Гэтае распараджэньне, якое зьяўляецца спробаю прымусовае ўтраквізацыі нават прыватных школаў, выклікала страшэнна прыгнятаючае ўражаньне ня толькі на беспасрэдна зацікаўленыя вучыцельскія сфэры, ня толькі на бацькоў, але таксама на найшырэйшыя сфэры ўсяе няпольскае люднасьці краю.

Загад навучаць вышэйўспомненых прадметаў папольску ў школах з няпольскаю выкладовую мовую—у школах, утрымліваных пераважна ўласнымі сіламі, цаною непамерных ахвяраў і высілкаў няпольскай люднасьці, — быў паняты тэй-жа люднасьцяй, як акцыя, прадказываючая ня толькі зьнішчэньне няпольскіх школаў, але зьнішчэньне самога прынцыпу навукі ў матчынай мове, прынцыпу, загарантаванага ў міжнародаваных трактатах і ў Канстытуцыі.

З пэдагагічнага пагляду гэтае распараджэньне зусім ня вытрымлівае крытыкі. Нават царскі ўрад пасьля 1905 году не пайшоў гэтак далёка, бо-ж вымагаў навучаньня парасейску ў польскіх прыватных школах адно толькі **гісторыі Расеі і географіі Расеі.**

Языковыя ўставы з 31 ліпеня 1924 году меліся, паводле абвешчанай у § 2 інтэнцыі ўставадаўцы, пашырыць правы матчынай мовы няпольскіх нацыянальнасьцяў і гэтакім спосабам збудаваць мост дзеля згоднага сужыцьця люднасьці, нацыянальна-мешаных у ўзаёмнай пашане нацыянальных асобнасьцяў.

Тымчасам практыка, характэрны прыклад якой прадстаўляе паданы напачатку загад, зьяўляецца жывым запярэчаньнем тэй-жа інтэнцыі і вядзе, замест да згоднага сужыцьця, да рэзультатаў зусім адваротных.

З прычыны немагчымасьці павялічваньня лічбы гадзін навукі з паглядаў пэдагагічных, ня ўходзіць у жыцьцё поўнасьцяй § Канстытуцыі, які забясьпечывае ўсім нацыям права аховы і разьвіцьця матчынай мовы. А тым балей увядзеньне вучэньня агульнай гісторыі і агульнай географіі папольску выключае магчымасьць належнай навукі матчынай мовай.

І зусім слушна заяўляе няпольскае грамадзянства, што распараджэньне Міністра пазбаўляе найважнейшага—паза вучэньнем роднае мовы — срэдзтва выхававаньня і разьвіцьця пачуцьця й душы дзіцяці. Вучэньне дзяцей агульнае гісторыі й агульнае географіі папольску вучыцялямі, якіх потым накіне гэным школам школьная рада, трагічна адаб‘ецца на роўні веданьня вучнямі гэтых прадметаў і на ахвоце да навукі.

Апіраючыся на гэтых даных нацыянальнай і пэдагагічнай натуры, зьвярталіся бацькоўскія камітэты, а таксама культурныя арганізацыі беларускія, украінскія, літоўскія, нямецкія, жыдоўскія і габрайскія да п. Міністра з просьбай узяць назад гэтае распараджэньне. Нажаль, зусім безрэзультатна.

У сваіх вызсьненьнях пан Міністар паклікаўся на § 7 памянёнага ўставу з 31 ліпеня 1924 году, які—§—кажа: у сярэдніх агульна ўзгадаваў-

# Беларускі кангрэс у Бэрліне.

Толькі што польскія газэты паведамілі аб выніках працы канфэрэнцыі прадстаўнікоў розных беларускіх арганізацыяў і групаў у Бэрліне.

Прыбылі 17 дэлегатаў. У склад прэзыдыуму ўвайшлі: Езавітаў, Пракулевіч і Галавінскі. Заслухаўшы рад дакладаў з розных беларускіх „забораў“ і, прынятых рад важных палітычных рэзалюцыяў.

Канфэрэнцыя сцьвярдзіла, што ў сучасны мамэнт цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня беларускага народу зьяўляецца Менск.

# Арганізуйце вясковыя бібліатэкі!

Вёска нашая—вёска Заходняй Беларусі—гэта вёска асаблівая. Варункі яе быцьця — надзвычайныя. Вёска спалена вайной, поле дротам зацягнута і лесам зарасло; селянін, вярнуўшыся на бацькаўшчыну з Расеі, куды ўцякаў (ці ляпей кажучы: выгналі яго!) ад немцаў,—не атрымаў ні ад кога ніякае помачы. Варункі былі страшныя,—галодная сьмерць шчэрыла зубы з усіх бакоў, помачы няма,—трэ‘ было надлюдзкіх высілкаў, каб не загінуць з дружынаю.

**І не загінуў беларус, толькі дзякуючы самому сабе,**—дзякуючы вялікай працавітасьці, вытрываласьці, невымагальнасьці, здольнасьці здаволівацца самым малым, самым неабходным, што ўрэшце ведама ўсяму сьвету.

Матэр‘яльна вёска навет пачала ступянёва ажываць, хоць фінансавы крызіс Польшчы яе, як і ўіх, страшна б‘е.

Але, калі беларуская вёска ратавалася, сяктак ад матэр‘яльнай сьмерці,—то аб боку інтэлектуальным — моральным гэтага сказаць ня можна. А ня можна перад усім таму, што няма рассадніку навукі, асьветы—школы. Гэтак-званыя „языковыя законы“ ня толькі не палепшылі справы, але пагоршываюць яе, аканчальна ліквідуючы апошнія беларускія школы і пасягаючы на сярэднія. І вось, дзякуючы адсутнасьці школы, вёска наша гібее ў цемнаце й духова-маральным заняпадзе.

Старэйшыя па-за працай сьвету ня бачаць; напрацаваўшыся цягне іх толькі адпачыць. Маладшыя пасьля хоць надлюдзкай працы і жыцьцёвых высілкаў, калі адпачынуць, хочуць павесяліцца; але дзеля адсутнасьці добрых, здаровых забаваў, імкнуцца да такіх гульняў, пры якіх ніколі не абходзіцца бяз п‘янства, разбою і г. п. Гэтакім чынам і выпрацоўваецца паняцьце, што павесяліцца можна толькі з гарэлкаю, а **ад гэрэлкі,** як расейцы кажуць, **„все качества“.**

Напіўшыся, чалавек не ацэньвае свайго палажэньня, ня можа крытычна глядзець на жыцьцё, а, што найгоршае, маральна занепадае. І ўзгадоўваецца чалавек мало-карысны для грамадзянства, або навет зусім шкодны.

Дзеці йдуць за прыкладам старшых, зьбіраюцца ў грамады, дзе ўстрайваюць даволі часта благія гульні, вучацца ўсялякага дрэнства, займаюцца разбоямі і г. п. Узімку ўвечары ўжо небясьпечна прайсьці праз вёску ад г.-званых „малышоў“.

І гадуюцца яны, як той стаўбун, або пусты колас, ня прыносячы добрага плёну.

Ад гэтакага элемэнту пагражае шкода ўсяму грамадзянству. Аднак-жа ніхто ад гэтага духова-маральнага заняпаду не ратуе нашу вёску—як-бы нікому гэтага ня трэба.

Цяпер ужо жыцьцё паказала, што й **у гэтым выпадку,** як у справе матэр‘яльнага свайго бытаваньня, **сяляне-беларусы мусяць спадзявацца толькі самы на сябе.**

Не даюць дзяржаўнай школы, — трэба адчыняць прыватную, калі пазваляюць на гэта матэр‘яльныя варункі.

Але тутака мы хочам зьвярнуць увагу не на школу, якая ня кожнай вёсцы пад сілу, а на тое, што **можа зрабіць кожная вёска—на бібліотэкі.**

І перад усім зварочваемся да вучыцельства нашага, да тых інтэлігентаў і поўінтэлігентаў, якія сядзяць на вёсцы, бо яны мусяць быць адказнымі за духова-маральны стан сваё вёскі.

**Кожная вёска, якая ня выпісвае яшчэ нашае газэты, мусіць яе выпісаць.** Кожная вёска мусіць ababраць сабе вялікшую, прастарнейшую хату, дзе-б знаходзілася газэта, куды-б кожны мог зайсьці пачытаць яе і расказаць аб прачытаным другім. Кожная вёска мусіць зложыцца па колькі грошаў і выпісаць з Беларускае кнігарні ў Вільні каталёг, а потым паводле каталёгу самыя неабходныя папулярныя беларускія кніжкі. Кніжкі гэтыя мусяць быць зложаны ў гэтай прастарнейшай хаце пад аховаю аднае асобы; сюды-ж мусяць быць зношаны й усе іншыя разумныя й карысныя кніжкі,—і гэткім чынам утворыцца **свая ўласная танная бібліотэка.**

Вось сюды-то—у гэту хату—й павінны зьбірацца ўсе тыя, хто хоча павесяліцца, разьвясьці душу—**вясковая моладзь і дзеці.**

Тут яны знойдуць, замест гарэлкі й другіх брудных і шкодных рэчаў—**газэту й кніжку.**

Ня ўсе ў вёсцы ўмеюць чытаць, дык хай адзін, хто ўмее, чытае, а другія слухаюць; прачытаў граматны—мусіць расказаць другім;—урэшце кожны вясковы інтэлігент ведае, як вясьці гэткую бібліотэку.

Вось тут-то даведаецца кожны, што робіцца на сьвеце, як палепшыць сваю гаспадарку,— свой дабрабыт.

Усё гэта далёка лепшае за гарэлку, разбоі, хуліганства. І ўсё гэта гэтак мала каштуе, гэтак лёгка, гэтак даступна. Гэта патрэбна, каб беларуская вёска пазнаёмілася са сваей гісторыяй, геаграфіяй і літэратурай, — каб яна не памерла нацыянальна і духова-маральна.

**Кожная вёска мусіць мець гэткую бібліотэку,** бо гэта для кожнай магчыма матэр‘яльна.

**Да Вас, вясковае вучыцельства і інтэлігенцыя, зварочваюцца нашыя словы! Вы павінны ратаваць вёску ад заняпаду нацыянальнага і духова-маральнага,— Вы павінны кіраваць ею!**

Не змарнуйце гэтага часу й магчымасьці, што сядзіцё на вёсцы!

**Будзьце й у гэтай справе ініцыятарамі Вы,** бо на Вас падзе за гэта маральная адказнасьць!

Хай словы нашыя ня будуць словамі гукаючага ў пустыні!

**М. Дубоўскі.**

чых прыватных і дзяржаўных школах з мовою навучэньня няпольскаю — абавязкава навука папольску мовы й літэратуры польскай, гісторыі і географіі разам з навукаю аб сучаснай Польшчы.

Калі само чытаньне гэтага § насувае некаторыя сумляваньні, дык тое тлумачэньне, якое дае яму пан Міністар, бяз ніякага сумліву пярэчыць Канстытуцыі, а яшчэ балей нядвузначнаму зьместу Вэрсальскага Трактату.

§ 109 Канстытуцыі гэтак кажа: кожны грамадзянін мае права захаваць сваю нацыянальнасьць.

Вэрсальскі Трактат гарантуе ў школах і ўзгадаваўчых інстытуцыях этнічных, рэлігійных ці языковых меншасьцяў „права свабоднага карыстаньня роднаю моваю“.

Польскі ўрад упаважнены, праўда, увадзіць абавязковае вучэньня польскае мовы, як прадмету, але **толькі ў пачаткавых школах.**

Адным словам, Вэрсальскі Трактат выразна кажа, што меншасьці ў сваіх школах, асабліва-ж у ўтрымліваных уласным коштам, **„маюць права свабоднага ўжываньня ў іх роднай мовы“**, значыць: у такіх межах, у якіх ужываюць палякі і польскую мову ў іншых школах.

Калі міжнародавыя забавязаньні Польшчы маюць быць шанаваны, калі Польскі ўрад ня хоча ўважаць Вэрсальскага Трактату за „serap af paper“, то мусяць быць шанаваны і тыя §§ Трактату, якія накладаюць на Польшчу забавязаньні ў адносінах да меншасьцяў, і то тым балей, што гэтыя нацыянальныя правы загарантаваны меншасьцям таксама і Канстытуцяй.

Тымчасам распараджэньне п. Міністра Р. В. і Публ. Асьв., абапертае нібы-то на § 7 уставу з 31 ліпеня 1924 году, зьяўляецца выразным пагвалчэньнем Канстытуцыі і Вэрсальскага Трактату.

Нават калі-б тлумачэньне § 7 ўставу з 31 ліпеня 1924 г., якое дае п. Міністар у сваім распараджэньні, магло быць прызнана за слушнае, то самы § гэты, знаходзячыся ў супярэчнасьці з Канстытуцыяй і Вэрсальскім Трактатам, ня можна мець ніякой праўнай сілы.

Няўжо-ж Урад не разумее, што выразнае пагвалчэньне правоў меншасьцяў, загарантованых Трактатамі, змусіць нацыянальныя меншасьці ўжыць усіх срэдзтваў, каб бараніць прызнаныя Канстытуцыяй і Трактатамі нацыянальныя правы?

Маючы на ўвазе, што гэтае распараджэньне п. Міністра Р. В. і Публ. Асьв. знаходзіцца ў выразнай супярэчнасьці з Канстытуцыяй і міжнародавымі забавязаньнямі, ніжэйпадпісаныя прапануюць;

Высокі Сойм рачыць пастанавіць:

„Сойм заклікае п. Міністра Рэлігійных Вызн. і Публічнае Асьветы ўзяць назад распаражэньне з 23. IV. 25 г. № 4023. D. II. 25. у справе вучэньня агульнае гісторыі і агульнае географіі ў школах з няпольскаю выкладовою моваю, а також выданых у гэтай справе вусных загадаў“.

# Пэпээсаускі сялянскі зьезд.

На 8 лістапада пэпээсы склікалі ў Варшаве „вялікі сялянскі кангрэс“...

Пэпээсаўская „Хлопска (запраўды-ж—халопская!) „Prawda“ запрашала на гэты „кангрэс“ усіх малазямельных сялян, дробных арандароў і беззямельных батракоў... Першым пунктам праграмы кангрэсу было пытаньне... ці з выкупам адбіраць зямлю ад паноў абшарнікаў, ці—бяз выкупу... Вось, як клапоцяцца аб лёсе і „вольнай апініі“ сялянства ў Польшчы паны пэпээсы...

Орган „Незалежнай Сялянскай Партыі“—„Walka Pracy“ слушна абурылася на гэткі бязмежны цынізм польскіх урадавых „сацыялістаў“.

„П.П.С., якая ў Сойме старанна падтрымлівала „Пяста“ і пільна глядзела, каб абшарнікам ня сталася крыўды,—П.П.С.—якая падала галасы за соймавую „зямельную рэформу“, пазбавіўшую зямлі шырокія масы беззямельных і малазямельных сялян, — „цяпер, пасьля ўсяго гэтага, склікае „вялікі зьезд сялян“, каб запытацца ў іх: якую ім трэба зямельную рэформу — з выкупам ці бяз выкупу?..

Ці ж запраўды варшаўскія пэпээсаўскія сынкі польскіх абшарнікаў ня ведалі, што думае ўсё сялянства ў Польшчы аб тым, як трэба адбіраць зямлю ад абшарнікаў?!. Ці-ж забылася гэтая П. П. С. аб сваей уласнай праграме, у якой чорным па беламу—„як быкі стаяць літэры“ (як кажа Янка Купала), кажучы аб тым, што ніякага выкупу за адвечна сялянскую зямлю эксплёататарам чужое працы на ёй плаціць ня трэба?!...

Ну, хай сабе, даруем гэта ўсё кароткай памяці паноў пэпээсаў, загуляўшыхся ў вясёлай сталіцы дый заклапочаных „высокай палітыкай“. Забыліся — дык што-ж рабіць?! — На найбліжэйшых выбарах, можа, і ўспомняць...

Але слушна пытаецца ў іх „Walka Pracy“:

„чаму-ж гэта П.П.С. не запыталася ў сялянства аб іх поглядзе на справу **перад** сваім галасаваньнем у Сойма“—за „зямельную рэформу“, апрацаваную паразуменьнем Хіены і Пяста? П.П.С. зрабіла якраз наадварот: раней галасавала за выкуп, правяла рэформу, а пасьля, калі яна ня сеньня-заўтра станецца ўжо законам,—дык схапілася за галаву і кліча сялянскую грамаду, каб высказала сваю „апінію“...

Плян пэпээсаў—зусім ясны.—Цяпер, кажуць яны, ня можна было зьдзейсьніць зусім слушных дамаганьняў сялянства, якія ўжо бяссумліўна пацьвердзіць кангрэс. Але прыняты закон можна „палепшыць“... у новым Сойме. О, тады, у гэтым новым Сойме мы, польскія сацыялісты, кінемся грамадой на чале польскага сялянства адбіраць **ужо бяз выкупу** зямлю ад польскіх абшарнікаў. Але, зразумела-ж, перш, паночкі выбаршчыкі-сяляне, выбярыце нас ізноў у новы Сойм...

Сялянскі зьезд, скліканы пэпээсамі з такімі мэтамі адбыўся, як і трэба было спадзявацца, з вялізарнымі скандаламі і бойкамі. Зразумела, што ўсе запраўды сялянскія клюбы Сойму жадалі папасьць на зьезд, каб высьветліць дэлегатам запраўдную ролю П. П. С. у сялянскай справе. Зразумела і тое, што пэпээсаўскія правадыры больш, як агня, баяцца гэтай праўды аб іх саміх, — дык і пастараліся не дапусьціць на зьезд „нікога староньняга“. І вось паны пэпээсы разам з паліцыяй (—віднай і нявіднай) з'арганізавалі „ахрану“ (папольску—дэфэнзыву) зьезду. Азброеныя пэпээсаўскія баёўкі навет не дапускалі паслоў Сойму, каб яны знаходзіліся каля гмаху, дзе адбываўся зьезд. Ня гледзячы на гэтае дзікае самавольства зазнаўшыхся ўрадавых сацыялістаў, камандаваўшых паліцыяй, сялянскія паслы раздавалі сваю літэратуру дэлегатам каля гэтага гмаху. Тады пэпээсаўскія баёўкі пачалі папросту біць і калечыць сялянскіх паслоў... Былі зьбіты да паўсьмерці амаль ня ўсе правадыры Незалежнай Сялянскай Партыі.

Характэрная „драбніца“: у Палесьсі паны пэпээсы раскідалі свае адозвы, з заклікам на зьезд, друкаваныя **парасейску**. Беларусаў яны, ведама, лічаць за „племя единаго русскаго народа“. Каб-жа гэтая работа не памсьцілася... на Польшчы!

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Мін. Сікорскі аб закідах Сойму і прэсы.

На паседжаньні вайсковай камісіі Сойму мін. Сікорскі даў адказ на ўсе закіды проці яго гаспадаркі ў арміі, заяўляючы, што яны—зусім беспадстаўныя.

Закід прэсы аб тым, быццам у вайсковага бюджэту што-год крадуць 200 мільёнаў (!), п. міністар называе плёткай, рассяванай нездаволенымі фірмамі і іх газэтамі. Калі-б, кажа міністар, гэта было праўдай, дык у арміі не рабілася-б нічога, а найвялікшае ўчасьце ў кражах прымаў-бы сам міністар з яго найбліжэйшымі памоцнікамі.

У канцы даўгога адказу на ўсе закіды міністар кажа, што „армія мае прэтэнсію быць першай установай у краі па сваей маральнасьці“. Дзеля гэтага міністар ня будзе ўкрываць надужыцьцяў, але, наадварот, будзе „выпаліваць іх калёным жалезам“. Зладзействы-ж, якія робяцца, міністар лагодна тлумачыць — „агульнай дэмаралізацыяй на вайне дый матар'яльным убожствам у краі“.

### Яшчэ жыве.

Так-званая „сэкцыя для спраў усходніх ваяводзтваў“ узнавіла сваю „працу“. У паседжаньнях „сэкцыі“ прымаюць учасьце запрошаныя ўрадам „спэцыялісты“: п. Васілеўскі, пэпээсавец, „знаўца“ спраў меншасьцяў наагул—з пункту гледжаньня „паньствовага“; п. Зьвежыньскі, эндэк,—„знаўца спраў беларускіх крэсаў“, і адвакат Левэнгэрд, спольшчаны жыд,—„экспэрт“ у справах украінскіх.

Няма чаго казаць — дабраная кампанія. А калі яшчэ дадаць нашага добрага знаёмага—былога сьвянцянскага старосту п. Забежовскага, дык „кампэтэнтнасьць“ гэтай кумпаніі ў справах „крэсаў“ будзе зусім бяссумліўна!..

### Спагон падаткаў экзэкуцыямі.

У працягу месяца верасьня, як інфармуе „Walka Pracy“, адбылося пры спагоне падаткаў ува ўсей Польшчы 45.000 экзэкуцыяў (забіраньне маемасьці) і 3.800 ліцытацыяў.

Тая-ж газэта паведамляе, што польскі ўрад купіў—ведама, у Францыі!—дванаццаць падводных лодак. „І на гэта ёсьць грошы!“—кажа газэта.

### Далейшы ўзрост безрабоцьця.

Безрабоцьце ў Польшчы ўсё расьце і расьце. За апошні тыдзень кастрычніка лічба безработных узрасла ізноў на 6.070 асоб, а ўсяго безработных у Польшчы ўжо 213.480 асоб.

Перастрашаны гэтым грозным зьявішчам навет у Сойме. Дык вось, соймавая камісія аховы працы галасамі Хіены пастанавіла, выразіўшы недаверые міністру Сокалю, патрэбаваць ад ураду, каб той энэргічна пачаў барацьбу — „ня з скуткамі безрабоцьця, але з яго прычынамі“, гэта значыць — скасаваў ахову 8 гадзіннага дня працы і — даваў чым больш крэдытаў прамыслоўцам „на падтрыманьне краёвай вытворчасьці“.

### Капітуляцыя варшаўскага банку.

Вялікі Гандлёвы Банк у Варшаве перайшоў у італьянскія рукі. Новым уласьнікам банку зьяўляецца ведамая ў Польшчы па „тытуновай“ пазыцы фірма п. Тэпліца—„Банка Комэрціяле Італьяна“.

Як сцьвярдзіў аратар жыдоўскага клюбу ў часе агульнай бюджэтнай дыскусіі, банк гэты—жыдоўскі.

Навука з гэтага ясная: б'юць „сваіх“ жыдоў, дык падпадаюць у залежнасьць ад замежных.

### Заміраньне Лодзі.

Польскія газэты сцьвярджаюць, што за апошнія 4 месяцы з прычыны поўнага застою ў прамысловым жыцьці Лодзі — 17 вялікіх лодзкіх фабрык з 900 машынамі перанесьліся ў Румынію. Але эміграцыя прамысловасьці з лодзкага райёну на гэтым ня спынілася: у найбліжэйшым часе рыхтуюцца да пераезду яшчэ 900 машынаў. Эмігруе і шмат работнікаў, але, ня гле-

# Зьніміце фальшывы шыльд!

(ад нашага ковенскага карэспандэнта).

Да сяго дня ў Коўне на Міцкевіча вуліцы № 13 вісіць шыльд: „міністэрства беларускіх спраў“. Гэты шыльд, як ведама, фальшывы. Ніякага беларускага міністэрства ў Літве няма, яно ліквідавана пастановай сойму яшчэ у 1923 годзе, і нават дрэнная памяць аб ім загінула ў сьвядомасьці тутэйшых беларусаў. Аднак — фальшывы шыльд вісіць. Што гэта: недагляд, ці спэкуляцыя? Недагляду тут быць ня можа, бо на тэй самай Міцкевіча вуліцы месьціцца паліцэйскі вучастак, і калі-б паліцыя ня ведала, што гэты шыльд патрэбен дзеля „дзяржаўных меркаваньняў“, дык яна даўно яго-б зьняла, як зьнялі ў сваім часе, шыльд „прадстаўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі“ і шыльд „міністэрства жыдоўскіх спраў“.

На гэтым шыльдзе, насколькі нам ведама, спэкулюе і вельмі груба, даўнейшы „дыктатар“ па беларускім справам у Літве п. Іонінас, былы „беларускі міністр“, а цяперашні дырэктар міністэрства замежніх спраў. Кожнаму „знатному иностранцу“ гэты пан паказвае фальшывы шыльд і зазначаець, што, вось, беларусам нідзе ня ёсьць так добра, як у Літве, бо яны маюць тут нават свае міністэрства. Ен же загадвае паліцыі, каб міністэрскі шыльд вісеў надалей.

Даўно ўжо прысьпеў час, каб запатрэбаваць ад літоўскае ўлады—спыніць гэтую спэкуляцыю і фальшывы шыльд зьняць. Тутэйшае беларускае грамадзянства і замежная беларуская прэсса („Голас Беларуса“) ня раз ужо пратэставалі супроць падобнай „палітыкі“ Літвы ў стасунку да беларусаў,—але „пан дыктатар“ Іонінас не зьвяртаў на гэтыя пратэсты ўвагі. Не зьвяртаў таму, што фальшывы шыльд ёсьць вонкавы, рачовы выраз яго прынцыповага стасунку да беларускай справы наагул.

Spectator.

дзячы на гэта, лічба безработных у Лодзі ўсё расьце і дайшла ўжо да 30 тысяч.

Гэтае зьявішча — шмат паважней і сумней, чым „пацяшаў“ нядаўна банкрутуючых фабрыкантаў прэм'ер Грабскі, бо ўцякаюць з Польшчы якраз не новапаўстаўшыя, створаныя на інфляцыі фабрыкі, але старыя моцныя фірмы. Гэта значыць, што ў новай, незалежнай Польшчы варункі эканамічнага жыцьця і разьвіцьця значна горшыя, чым навет былі ў расейскім „заборы“.

### Маніфэстацыі камуністаў у Варшаве.

9-га лістапада у зьвязку з 8мі ўгодкамі радавае ўлады ў СССР, варшаўскія камуністы зрабілі рад мітынгаў, якія разганяліся паліцыяй, арышаваўшы ўсяго каля 100 асоб, 60 з іх, пасьля дапросу і агляду, выпушчаны.

### Разборка праваслаўнага сабору ў Варшаве.

Вялізарны сабор на Саскім пляцу ў Варшаве, запраўды цуд архітэктуры з знамянітымі фрэскамі ўнутры, як ведама, разбураецца польскім урадам. Але зрабіць гэта ня так лёгка, як выдавалася сьпярша, 5—6 гадоў разьбіраюць сабор, а ён усё неяк не зьмяншаецца. Урэшце пачалі яго папросту ўзрываць дынамітам. Справа пайшла значна шпарчэй. Але, нажаль, ад выбуху дынаміту нарабіліся навакол сабору вялікія шкоды: патрэскаліся муры, пабілася шмат вокнаў, былі навет ахвяры ў людзях. Тады быццам камісар Варшавы ўмяшаўся і забараніў падкладаць дынаміт пад сабор. Дык доўга яшчэ, відаць, будзе Варшава „ўслаўляцца“ перад заграцічнымі гасьцьмі відам мірнага і халодна-бязмыснага вандалізму, перад якім бляднее бамбардыроўка—у часе вайны-ж—Рэймскага сабору немцамі...

## Заграніцай.

### Амэрыканскія палякі аб польскіх.

Выходзячая ў Чыкаго эндэцкая газэта „Dziennik Związkowy“ зьмяшчае справаздачу з публічнай лекцыі польска-амэрыканскага дзеяча доктара Каліша—аб яго асабістых уражаньнях з падарожы да „адраджонай Польшчы“.

Вось, што піша паміж іншым шчыры і разумны доктар.

Пасьля агульнай характэрыстыкі сучаснай Польшчы, няздарнага, убогага Сойму, бязмыснай палітыкі ўраду, аўтар робіць гэткі сумны вывад: „Адным словам, Польшча, наша каханая Польшча — ня тая, што калісьці была.—Ані воднай добрай рэчы няма ў сучаснай Польшчы.—Адны ашуканцы і зладзеі. Людзі ў ёй непрактычныя, няздарныя, але лішне многа аб сабе думаючыя; лянівыя і дурныя“. Гэтых усіх людзей у Польшчы „трэба асьцерагаціся на кожным кроку“...

Мы перадрукоўваем гэтую характэрыстыку польскіх палякоў, зробленую амэрыканскім іх зямляком, з газ. „Ilustrow. Kurjer Codzienny“ бяз ніякіх камэнтарыяў...

### Тэлеграфная лінія Масква—Бэрлін.

Літоўскі ўрад згадзіўся на правядзеньне праз тэрыторыю Літвы тэлеграфнай лініі, якая будзе злучаць беспасрэдна Маскву з Бэрлінам. Літоўскі ўрад аблічае зыскаў з гэтага „транзыту“— на 1 мільён літаў.

### Сацыял-дэмакратычны ўрад у Латвіі.

Прэзыдэнт Латвійскай Рэспублікі даручыў

стварэньне ўраду правадыром сацыяль-дэмакратычнай партыі, якія прынялі даручэньне.

### Радава-турэцкая ваенная ўмова.

Між ССРР і Турцыяй заключаны ваенна-абаронны дагавор, на моцы якога ССРР абязаўся падтрымаць Турцыю ў яе канфлікце з Англіяй за Мосуль, а также ў справе ўсемусульманскага руху (падтрымаць паўстаньні мусульман проці эўрапэйскіх імпэрыялістаў) і ў справе Лёкарно. З свайго боку Турцыя абязалася падтрымліваць ССРР у яе палітыцы на Усходзе Эўропы і ў Азіі.

Лёгка зразумець, што новы ваенны саюз скіраваны перад усім проці супольнага ворага абодвух краёў—Англіі, якая аканчальна траціць свой былы аўтарытэт у мусульманскім сьвеце.

### Манархічны загавор у Баварыі.

У Баварыі, быццам, выкрыты загавор, які меў мэтай узьвядзеньне на трон былой дынастыі Вітэльсбахаў.

### Выкрыцьце замаху на гішпанскую дырэкторыю.

Гішпанская паліцыя выкрыла вялікую вайсковую змову, меўшую мэтай замах на асобы дырэкторыі з ген. Прыма дэ Рывэра на чале. Арыштаваны 2 генаралы, 4 палкоўнікі, 4 маёры і шмат ніжэйшых афіцэраў. Замахоўцы, зваліўшы дыктатуру, маніліся абвясьціць рэспубліку.

### Выкрыцьце замаху на румынскага караля.

У Букарэшце паліцыяй выкрыты замах на румынскую каралеўскую пару. Арыштаваны 8 асоб. Адзін з замахоўцаў, студэнт унівэрсытэту, які хаваў пры ўваходзе паліцыі бомбу, быў забіты выбухам яе на сьмерць.

### Замах на Мусоліні—правакацыя.

Як сьцьвярджае апазыцыйная прэса, замах на Мусоліні — справа саміх фашыстаўскіх правакатараў.

### Узнаўленьне фашыстаўскага тэрору ў Італіі.

Хваля „тэрору помсты“ за правакацыйны замах на Мусоліні ўсё расьце — па ўсім краю. Асабліва дастаецца сацыялістам. Работніцкія дамы зачыняюцца, сацыялістычныя газэты таксама.

### Урадавы крызіс у Чэха-Славакіі.

З прычыны скасаваньня Сэнатам пасольства пры Ватыкане (двор Рымскага Папы), 4 міністры каталіцкай партыі падаліся ў адстаўку.

### Француская ўлада трашчыць.

З Лёндану пішуць, што палажэньне Францыі ў Сірыі катастрафічна пагаршаецца. Разгром Дамаску, падняўшы проці французаў усіх арабаў, не ўратаваў для Францыі навет Дамаску, які акружаны друзамі і можа папасьці ў іх рукі. Цяпер на чаргу стануў сам Багдад, у якім пачаліся вялізарныя стотысячныя маніфэстацыі проці Францыі. Абурэньне проці французаў перакінулася і да суседняга „незалежнага“ (англійскага) Іраку, парлямант якога на 2 дні спыніў працу—у знак пратэсту проці гаспадараваньня французаў у Сірыі.

### Даюць аўтаномію, калі... народ бярэць незалежнасьць!

Новы высокі камісар Францыі ў Сірыі заявіў, што пачне паварот да міру ў Сірыі—з увядзеньня аўтаноміі.

Ці не запозна?!

### Пагроза паўстаньня ў Палестыне.

Паўстаньне арабаў пачынае перакідацца з Сірыі ў Палестыну. Як ведама, Палестына знаходзіцца пад англійскім „мандатам“ (папросту—ярмом...), дык вытвараецца сітуацыя, вельмі падобная да Марокко.—Пакуль сірыйскія арабы білі толькі французаў (як мароккскія рыфэны —гішпанцаў), дык англійцы — дзеля канкурэнцыі Францыі ў Малай Азіі—маральна, а моʻ і аружна, падтрымлівалі паўстанцаў (як у гішпанскім Марокко французы). Але цяпер абодва канкуруючыя жываеды могуць і павінны абʻяднацца, каб задушыць супольную ўжо небясьпеку... Гэтага і трэба спадзявацца, калі толькі ССРР і Турцыя рашуча не падтрымаюць паўстаньня. У кожным разе трэба сьцьвярдзіць, што каляровыя нявольнікі эўрапэйскіх імпэрыялістаў ужо настолькі ўзмацніліся духова і аружна, што адна з эўрапэйскіх дзяржаваў, навет з вялікіх, — ня можа ўжо ўласнымі сіламі даць з імі рады: прымушана паклікаць на помач таварыша па няволеньні гэтых народаў.

### Хатняя вайна ў Кітаі.

Абвясьціўшы сябе „імпэратарам усяго Кітаю“ англа-японскі найміт Чанг-Тсо-Лін (дыктатар Манджурыі), адціснуўшы армію пэкінскага ўраду, падыйшоў на некалькі дзесяткоў міляў да самай сталіцы Кітаю. З прычыны гэтага ў Пэкіне абвешчаны ваенны стан, прэмʻер падаўся ў адстаўку, а яго прыхільнікі пачалі пакідаць места.

**ГРАМАДЗЯНЕ! Хто яшчэ не падаў Школьнаму Інспэктару дэклярацыяў аб жаданьні беларускай школы, няхай пастараецца гэта зрабіць да І-га студзеня (января) 1926 г.**

**Дэклярацыі, інструкцыі і іншыя блянкі ў гэтай справе можна выпісваць: 1) з Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады — Вільня, Віленская вул. № 12—6: 2) з Радашкоўскага Таварыства Беларускай Школы ў м. Радашкавічы і 3) з Навагарадзкага Таварыства Беларускай Школы ў Навагрудку.**

# ХРОНІКА.

**Дзіўная справа.** Як нас інфармуюць, на 13-га лістапада рэдактар газэты „Жыцьцё Беларуса“, Варавва, быў выкліканы ў суд з прапазіцыяй гадзіцца з „доктарам“ Павлюкевічам, які пажаліўся на яго за „абразу“ яго ў друку.

Ведама, рэд. Варава ні на якую згоду з падобным панам ня мог пайсьці і ў суд не пайшоў.

Назаўтрае на самай раніцы рэд. Варавва атрымаў павестку ад палітычнай паліцыі (ў якой у сваім часе быў пабіты рэд. Пракапеня!) — явіцца туды ў характары „заінтэрэсаванага“.

Што гэта значыць, ня ведаем; адно толькі, выйшаўшы з Рэдакцыі, каб ісьці ў палітычную паліцыю, рэд. Варава назад ужо не вярнуўся....

Моʻ аб гэтым ведама што-колечы пану Камісару ўраду, або... п. Павлюкевічу?!.

**Выбары Беларускай Школьнай Рады.** У нядзелю 16 лістапада адбыўся Агульны сход сяброў Таварыства Беларускай Школы. Пасьля справаздачы Цэнтральнай Рады аб дзеяльнасьці за мінулы год і наглядная аб рэвізіі адбыліся выбары сяброў Новай Цэнтральнай Школьнай Рады і Наглядная на наступны год.

У Цэнтральную Школьную Раду выбраны: Старшыня—Б. Тарашкевіч, віцэ-старшыні: С. Рак-Міхайлоўскі і М. Заморын, сэкрэтары: Я. Шнарневіч і М. Марцінчык, скарбнік: Р. Астроўскі і заступнік яго І. Савіцкі; Сябры Рады: кс. А. Станкевіч, П. Мятла, М. Пяткевіч, А. Трэпка, Я. Гаўрылік; заступнікі: І. Галяк, М. Сіняўскі, С. Кароль і А. Сакалова.

У Наглядную Раду выбраны: Старшыня Ф. Ярэміч, Віцэ-Старшыні: І. Манкевіч і С. Паўловіч; Сэкрэтары: І. Лукашэвіч і К. Крук; сябры: У. Самойло, А. Назарэўскі, А. Уласаў, Ф. Стэцкевіч, А. Коўш; кандыдатамі: М. Касатая і В. Уласэвічанка.

**Беларусізацыя Віленскай Правасл. Сэмінарыі.** Япіскап Антоні, рэктар Віл. Прав. Сэмінарыі, выехаў у Варшаву, каб дамагацца ад духоўнай і ўрадавай уладў пераходу навучаньня ў Сэмінарыі на беларускую мову.

Нарэшце зразумела хаця бліжэйшае начальства, што школа істнуе для вучняў, але не наадварот... Можа, зразумеюць і вышэй.

**Новы віленскі біскуп.** На мейсца літвіна Матулевіча папа назначыў на становішча віленскага каталіцкага біскупа арцыбіскупа Цепляка.

**Прысуд у справе віленскіх паліцыянтаў-хабарнікаў.** Віленскі акружны суд, пасьля колькі-дзённага разгляду справы вышэйшых урадоўцаў віленскай паліцыі, якія пад пагрозамі пратаколаў і іншых рэпрэсіяў прымушалі дробных і буйнейшых гандляроў места даваць ім хабары (лапувкі), абкладаючы іх апошнімі рэгулярна. Працэс выкрыў бяспрыкладную сьмеласьць камісараў-хабарнікаў, якія абдзіралі людзей незаконнымі паборамі ў месьце—на вачох вышэйшага начальства. Можна сабе цяпер прадставіць, што робіцца ў вяскавай глушы, сярод безбароннага беларускага народу, які датаго-ж яшчэ ўвесь бяз вынятку абвешчаны—„камуністамі“.

Суд выдаў вельмі мягкі прысуд.

Абвіняліся паны паліцыянты ў нарушэньні аж 14 артыкулаў Карнага Кодэксу. Камісар Шольц за цэлы рад злачынстваў пасаджаны ў „дом паправы“ (б. расейскія „исправит. мест. отделенія“) на 2 гады і 6 месяцаў, але з залічэньнем 10 месяцаў, якія ён ужо адсядзеў; дык усяго будзе сядзць 1 год і 8 месяцаў.

Паны пшодоўнікі Рынкевіч і Кулакоўскі пасаджаны ў тую ж „санаторыю“—на 1 год, але фактычна будуць сядзець яшчэ толькі 4 месяцы, бо ўжо адсядзелі 8.

Пасрэднік у прыманьні хабароў Шнэйдэр засуджаны на 5 месяцаў (дасядзіць яшчэ толькі 3)—за тое, што... спакушаў (так і сказана ў прысудзе: „нахляняў“...) пана камісара Шольца браць хабары...

Былы падкамісар, начальнік угалоўнага розыска ў м. Вільні, Павловіч засуджаны на 2 тыдні арышту—з залічэньнем 2-жа тыдняў з таго, што ён адсядзеў.

Былы камэндант віленскай паліцыі Талпыга і пшодоўнік Томковід апраўданы.

Цікава, што аб Шольцу сьведкі акружны камандант Прашаловіч і камісар ураду п. Вімбор далі зусім процілежныя паказаньні. Цікава, і гарачая абарона п. Талпыгі новапераведзеным ў Вільню з Навагрудку прэзэсам Суда Бехвіцам (што судзіў Мурашку).

**Скуль родам „наша“ паліцыя?** „Kur. Wil.“ наказуе, што дэлегат ураду на Віленшчыну прасіў адпаведную ўладу аб выдачы бясплатных білетаў на праезд на бацькаўшчыну 520 зрэдукаваным паліцыянтам, бо... яны **„паходзяць пераважна з другіх краін Рэчыпаспалітай“.**

**Яшчэ зладзейства!** У Стоўпцах з скарбовае касы нейкі пан Казімеж Яворэк, шчотчык касы, атрымаў 65.400 злот. паводле асыгноўкі каманды 6 баону корпусу пагранічнікаў і палажыў гэныя грошы... ў свой кішэнь!..

На асыгноўцы былі ўсе патрэбныя подпісы і пячаці... Дык, як піша карэсп. „Słowa“, апрача пана Яворка, які ўжо сядзіць за рашоткай, магчымы і далейшыя арышты сярод „абаронцаў пагранічча“.

Пасьля Вільні прыйшоў чарод на паветы: у Сьвянцянах—пан Недзялковскі, у Стоўпцах—пан Яворэк і моʻ „важнейшыя“ за яго....

**Толькі палякі.** Горадзенская „Powiatowa Komenda Uzupełnień“ надрукавала ў № 304 газэты „Nadniemeński Kurjer Polski“ з 5 лістапада с. г. абвестку, абʻвяшчаючы аб прыйме ў войска ахвотнікаў **толькі польскае нацыянальнасьці.**

Зусім справядліва!..

**І дапамога толькі палякам.** Віленская мястовая рада пастанавіла асыгнаваць з даходу з мястовага кінэматографу 1.000 зл. на дапамогу студэнтам, але... выключна палякам!..

„Kur. Wil.“, пішучы аб гэтым, напамінае, што ў Вільні жыве больш за 40 проц. жыдоў, дык выпадала-бы і жыдоўскай моладзі гэтак сама дапамагчы... вучыцца папольску ў польскім унівэрсытэце!..

Аб тым, каб дапамога была дадзена студэнтам беларусам, навет і польскія дэмакраты ня думаюць!..

**Ліквідацыя.** Польскія ўнівэрсытэты, закроеныя „навырост“, пачынаюць датарновывацца да фінансавых магчымасьцяў польскага гаспадарства. Гэтак, як даведалася „Słowo“, у сувязі з „ашчаднасьцямі“ пры ўкладаньні дзяржаўнага бюджэту Польшчы, асыгноўка на міністэрства асьветы мае быць зьменшана на 10 мільёнаў злотых, дзеля чаго ў віленскім унівэрсытэце будуць зьліквідаваны два факультэты: мастацтва і сельскае гаспадаркі...

Ня гледзячы на тое, што абодва гэтыя факультэты **маглі-бы** мець вялікую вагу для беларускага насяленьня, нам шкадаваць іх ня прыходзіцца: для нашых матурыстаў дзьверы іх усё роўна былі зачынены.

# З жыцьця Горадні.

✕ Як ведама, у мінулым годзе ведамы тут Янка Шурпа, сябра „Рады“ пана Паўлюкевіча, разьвёў такую калатню, што навет дэфэнзыва ня ведала, хто правы і хто вінаваты. Слухала, відаць, слухала, дый махнула на ўсё рукой.

Прычына ўсяму тая, што гэты Шурпа моцна сам „закруціўся“ ў прытулку, дый іншых, калі ня ўкруціў, дык апінію ім папсаваў, каб самому вылезьці з бяды, але ўсё-ж-ткі папаў пад „дазор“ паліцыі.

Спачатку ён быў сябром камітэту прытулку, але потым яго стуль выкінулі ягоныя-ж прыяцелі, з каторых ён тварыў „рады“ Паўлюкевічу і каторым вырабляў апінію „благонадежнасти“, а потым іх-жа абвінавачываў у камунізьме.

Дык вось і дзіцячы прытулак з нейкага „боку“ не спадабаўся панам Паўлюкевічу і Шурпе, каторыя ў № 38 „Грам. Гол.“ надрукавалі карэспандэнцыю проціў старшыні гр. Лукашыка, б. чыгуначкага працаўніка, адыграўшага разам з іншымі на „вучыцельскім“ паўлюкевічаўскім зьезьдзе роль быўшага вучыцеля!! Цяпер ён ужо ня з імі...

Вось гэтым, відаць, і трэба тлумачыць раптоўныя вобыскі ў прытулку, тым больш, што ў „паўлюкевічаўца“ Аршуна, кажуць, вобыску ня было, хаця трэсьлі навет і папоў (моʻ дзеля таго, што ў № 38 „Гр. Г.“ папы не спадабаліся паўлюкевічаўскім „карэспандэнтам“?!).

Ходзяць чуткі, што Паўлюкевіч, Шурпа і „спэц“ па касам хворых Косьцевіч зьбіраюцца ўжо ў Горадні адчыніць „клюб-шулерню“ і шукаюць ахвяр на нейкую „канфэрэнцыю“.

**Поп-беларус.**

✕ **Палітычны працэс „33“.** 23 лістапада 1925 г. ў Горадзенскім акружным судзе будзе разглядацца палітычная справа 33 чалавек: Рукшы Казіміра, Ятковскага, Галанскага, Пружанскага, Фінка, Добкі Льва, Стамблера і інш., абвінавачаных з арт. 102 К. К., ч. І. З іх палова сядзіць у вастрозе ў Горадні, а рэшта на свабодзе. Сядзяць ужо з красавіка 1923 г., г. ё. трэці год.

Характарна, што сярод абвінавачаных ёсьць **„жывы нябожчык“** Рукша Казімір, які ў 1921 г. палявым ваенным судом быў прыгавораны на сьмерць за тое, што ў часе пабыту ў 1920 г. радавай арміі ў Горадні служыў і спрыяў Радам, але-ж Начальнік Дзяржавы п. Пілсудскі замяніў кару сьмерці на 12 гадоў вастрогу.

Калі Рукша К. сядзеў у вастрозе ў Ломжы і ў той час прыяжджаў аглядаць вастрог міністар справядлівасьці, дык ён, Рукша, падаў заяву аб пераглядзе яго справы нанова.

Просьба была прынята і справа пашла на новае следзтва. У той час, калі йшло новае сьледзтва, Рукша быў звольнены пад залог з вастрогу, а калі адбыўся суд, дык суд Рукшу Казіміра апраўдаў.

Вось цяпераka йзноў стане перад судом у справе „33“ той самы чалавек, які ўжо ляжаў-бы ў зямлі і няведама за што!

Рукша—работнік. **Альфа.**



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня **Н Левін і Сыч**, Вільня, Нямецкая 22.